наша свабода

№9(236) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

25 СТУДЗЕНЯ 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Беларускія лётчыкі будуць лётаць меней

Беларускія лётчыкі могуць значна пацярпець у прафесійнай падрыхтоўцы. Сёлета на лётныя трэніроўкі курсантаў Ваеннай акадэміі ўрад выдзеліў замест 400 мільёнаў рублёў усяго 250 мільёнаў. Гэта значыць, не будзе зроблены належным чынам рамонт самалётаў і не будзе забяспечана неабходнага налёту гадзінаў.

## «Дзедаўшчына» ў беларускай арміі

У беларускай арміі працягвае буяць "дзедаўшчына". Паводле вайсковага пракурора Вячаслава Любавіцкага, калі ў 2000 годзе было зафіксавана 83 факты нестатутных адносінаў, то ў 2001-ым – 138 такіх выпадкаў. В.Любавіцкі сказаў, што гэта адна з асноўных прычын, чаму беларускія хлопцы не хочуць ісці служыць. Летась 116 хлопцаў ухіліліся ад службы ў войску, а яшчэ 7 дэзерціравалі адтуль.

## Выклік урача дадому стане платным

Хутка ў Гомелі ўвядуць платны выклік лекараў дадому. Праўда, апрача экстранных выпадкаў. Візіт тэрапеўта абыдзецца гомельцам у больш як 3 тысячы рублёў.

## Сродак дыягностыкі алергіі

У Рэспубліканскім дыягнастычным цэнтры і ў 10-ай клініцы Мінску ўсталявалі сучасную апаратуру для дыягностыкі алергіі «Юнікап». Гэтую тэхніку купілі за 220 тысяч даляраў. Раней дыягностыка алергіі праводзілася паводле аналізу скуры пацыента.

## Больш, чым у Беларусі, курс даляра вырас толькі ва Узбекістане

Па тэмпах росту афіцыйнага курсу даляра да нацыянальнай валюты ў мінулым годзе Беларусь заняла другое месца сярод краін былога СССР. Паводле звестак, атрыманых БелаПАНам з цэнтральных банкаў гэтых дзяржаваў, першае месца заняў Узбекістан, дзе афіцыйны курс даляра павялічыўся ў 2,1 раза. Далей ідуць наша краіна з 33,9%, Таджыкістан – 15,9%, Расія – 9%. Не змяніўся курс даляра ў Літве і Туркменістане, знізіўся ва Украіне і ў Кыргызстане.

## Часовы прысуд Калугіну

«Былы дырэктар беларускага заводу "Атлант" застанецца ў псіхіятрычнай клініцы пад аховай», – перадало агенцтва «*Интерфакс*» у 20.22 па маскоўскім часе.

Як паведаміла «*Интерфаксу*» крыніца ў дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржаўнага кантролю Беларусі, Л.Калугіну ўтрыманне пад вартай прадоўжана да 4 месяцаў.

Былы генеральны дырэктар найбуйнейшага ў Беларусі прадпрыемства, затрыманы напрыканцы мінулага году, па-ранейшаму ўтрымліваецца ў псіхіятрычнай клінічнай бальніцы «Навінкі».

Між тым, раней у эфіры нацыянальнага тэлебачання выканаўца абавязкаў начальніка дэпартаменту фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржкантролю рэспублікі Аляксандр Крачка раскрыў некаторыя падрабязнасці правапарушэнняў, якія ставяцца ў віну Л.Калугіну.

Абвінавачанне Л.Калугіну было прад'яўлена напрыканцы мінулага тыдня па трох артыкулах: злоўжыванне службовым становішчам, халатнасць і атрыманне хабару. У рамках крымінальнае справы былы гендырэктар ПА «Атлант» абвінавачваецца ў тым, што прадаў сусальное золата і 27 кілаграмаў срэбра суб'ектам гаспадарання, якія «можна назваць ілжэпрадпрымальніцкай структурай».

**УА «ИНТЕРФАКС»**

## Здавайце дэкларацыі

1 сакавіка заканчваецца перыяд падачы дэкларацый аб сукупным даходзе. У Мінску з прагназуемых падатковымі інспектарамі 100 тысяч дэкларацый аб даходах пададзена толькі 6 тысяч. Такія звесткі прывёў начальнік упраўлення кантролю і метадалогіі падаткаабкладання фізічных асобаў, іншых падаткаў і збораў інспекцыі Міністэрства падаткаў і збораў па Мінску Генадзь Каваль.

Паводле яго слоў, летась у Мінску было пададзена 83 тысячы дэкларацый, а памер самага вялікага выплачанага падатку склаў 70 тысяч даляраў. Як паведаміў Каваль, са студзеня 2002 году з'явілася магчымасць не дэкляраваць сукупныя даходы. Замест гэтага, паводле слоў Коваля, можна напісаць заяву па ўсіх месцах неасноўнай працы з просьбай утрымліваць падаходны падатак па стаўцы 20% (звычайная стаўка падаходнага падатку вагаецца ад 9% да 30% у залежнасці ад памеру даходаў).

**Лавінія АРЭШКА**

# Міністэрства навукі і ўладная вертыкаль

*У мінулы аўторак Аляксандр Лукашэнка сур'ёзна заклапаціўся праблемамі беларускай навукі. Ён наведаў Нацыянальную акадэмію навук Беларусі, дзе паабяцаў у найбліжэйшы час утварыць з НАНБ нешта накшталт міністэрства навукі. Гэтае навуўтварэнне будзе паклікана «навесці парадак» у навуцы, а таксама падмацаваць лукашэнкаўскую «вертыкаль» разумнымі людзьмі.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Разумныя людзі не выступілі супраць меркаваных новаўвядзенняў кіраўніка дзяржавы адзіным фронтам. Не сталі яны крытыкаваць і новага камандуючага навукай, прызначанага пару месяцаў таму прэзідэнта НАНБ Міхаіла Мясніковіча.

За гэта беларускім навукоўцам пабясцалі салодкую цукерку. Аляксандр Лукашэнка паабяцаў «улічыць меркаванні» вучоных падчас прыняцця канчатковага рашэння аб кірунку рэфармавання беларускай навукі. У перакладзе з дыпламатычнай мовы на людскую – балбачыце што хочаце, а я зраблю так, як лічу патрэбным.

Як паведаміў агенцтву БелаПАН дырэктар цэнтру інфармацыйных тэхналогій НАНБ Міхаіл Маханёк, «гутарка была адкрытая, месцамі вострая, але вельмі прадуктыўная». З яго ж словаў, Міхаіл Мясніковіч, прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў мусяць цягам найбліжэйшага тыдня дапрацаваць дакументы аб рэформе НАНБ і прадставіць іх на подпіс кіраўніку дзяржавы. А той ужо сам разбярэцца, дзе і якія ўносіць праўкі.

Дакумент аб НАНБ хутчэй за ўсё набудзе форму чарговага прэзідэнцкага дэкрэту. Праз яго, як чакаецца, Акадэмія навук атрымае статус і функцыі органа дзяржаўнага кіравання – стане своеасаблівым міністэрствам навукі.

У гэтага «міністэрства» будуць свае крыніцы фінансавання. Пра гэта, па словах А.Лукашэнкі, будзе клапаціцца міністр фінансаў Мікалай Корбут. Але не ўсе сённяшнія даследаванні будуць фінансавацца дзяржавай. Як заявіў у сераду на прэс-канферэнцыі М.Мясніковіч, «нам трэба пагледзець, што якой фундаментальнай навукай займаецца і якая ад гэтага карысць, – сказаў ён. – Распыляцца нельга: гэтага не дазваляюць эканамічныя магчымасці дзяржавы, і ў гэтым, па вялікім рахунку, няма ніякай патрэбы». Па словах прэзідэнта НАНБ, з сённяшняй 51 праграмы фундаментальных даследаванняў пасля іхняга «перагляду» застанецца 44, якія «дадуць рэальную аддачу». Такім чынам, асноўная мэта ўсіх гэтых пертурбацыяў – прымусіць навукоўцаў зарабляць дзяржаве грошы.

Уся ж рэформа Акадэміі навук, па словах М.Маханька, мусіць завяршыцца да канца ліпеня – бо так пажадаў кіраўнік дзяржавы.

Цікава, што пасля ўтварэння «міністэрства навукі» сённяшнія сапраўдныя члены і члены-карэспандэнты, прафесары і дактары стануць навуковымі «вертыкальшчыкамі». Можа, яны пакуль яшчэ слаба сабе гэта ўяўляюць, але разам з пэўнымі дабротамі, што абяцаюць акадэміі, ім давядзецца сутыкнуцца з улікам і кантролем сваёй дзейнасці. Так і ўяўляеш сабе селектарную нараду, на якой беларускі кіраўнік крычыць: «Акадэмік Гарэцкі, я табе кажу: дзе новыя напрацоўкі ў галіне геалогіі? Дзе новыя адкрыцці? А ты, Пеця Віцязь? Што там чуваць у парашковай металургіі? Чаму народ дагэтуль не адчуў палёгкі? Дарма я вам грошы плачу, лайдакі!»... І тэлетрансляцыя на ўсю краіну, якая павінна даказаць: прэзідэнт разам з народам! Ён такі самы, як усе мы – як дзядзька Пеця з суседняга пад'езду або цётка Маша з 4-га паверху.

Сённяшнім вертыкальшчыкам працей: яны ўжо прызвычаіліся да таго, што іх спачатку абліваюць брудам, а потым віншуюць з юбілеем, ганаровую грамату даюць. Праца ў іх такая. Але ці спадабаецца гэта нашым навукоўцам?

Тым часам, як адзначыў Міхаіл Мясніковіч, толькі за апошнія 5 гадоў больш за 400 беларускіх вучоных пакінулі краіну, з іх 60 дактароў навук і каля 200 кандыдатаў. Каб змяніць гэтую тэндэнцыю, па словах прэзідэнта НАНБ, «асаблівая ўвага» цяпер аддаецца прыцягненню ў беларускую навуку моладзі: «Нам сёння вельмі неабходны маладыя кадры, гэта – будучыня краіны». І дадаў: «Сярод дактароў навук тых, каму за 60, – больш як 70%».

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Вік «страціў давер ураду»

*Менавіта так учора адкаментаваў прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Павел Латушка рашэнне аб нявыдачы візы Хансу-Георгу Віку.*

Нагадаем, што ў якасці кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі амбасадар Х.-Г. Вік працаваў у нашай краіне 4 гады.

25-26 студзеня былы кіраўнік КНГ АБСЕ планаваў паўдзельнічаць у паседжанні міжнароднай назіральнай рады Цэнтру еўрапейскіх і трансатлантычных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту, у стварэнні якога Х.-Г. Вік браў найактыўнейшы ўдзел і сябрам якога з'яўляецца.

Ханс-Георг Вік першы раз па візу звярнуўся непасрэдна ў МЗС Беларусі яшчэ мінулым снежнем, аднак знешнепалітычнае ведамства не палічыла патрэбным даць пасьлу хоць нейкі адказ. Другі раз дыпламат звярнуўся ўжо ў амбасаду Беларусі ў Германіі, дзе папярэдне сказалі, што крайні тэрмін атрымання візы – 23 студзеня. Аднак 23 студзеня ў беларускай амбасадзе пасла Віка чакала адмова.

Учора на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка заявіў: «Сапраўды, былы кіраўнік КНГ АБСЕ не атрымаў візу на ўезд у Беларусь. Гэта звязана з тым, што ў сувязі са сваёй дзейнасцю на тэрыторыі Беларусі ён страціў давер ураду краіны».

КНГ АБСЕ выказала шкадаванне ў сувязі з дэмаршам беларускіх уладаў адносна былога кіраўніка мінскай місіі АБСЕ. «Гэта консульская праблема. Двума бакамі ў гэтым пытанні з'яўляюцца Беларусь і Федэратыўная Рэспубліка Германія, бо пасол Вік – грамадзянін ФРГ. Мы шкадуем, што паслу Віку не выдалі візы», – сказаў прэс-сакратар КНГ АБСЕ Эндру Карпентэр. Прэс-сакратар місіі не здолеў патлумачыць прычыны адмовы ў выдачы візы на ўезд былому кіраўніку місіі.

Гэта не першы выпадак, калі беларускія ўлады адмаўляюць у візе чыноўніку міжнароднай арганізацыі.

**Рыгор БУЯН**




НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1700

СТАСУНКІ

## Справа ў пазіцыі Беларусі

23 студзеня прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын выступіў у Страсбургу на сесіі ПА Савета Еўропы. Частку сваёй прамовы Адрыян Севярын прысвяціў пытанню стасункаў з Беларуссю. Адзначыўшы станоўчы досвед супольнае працы ў нашай краіне дзвюх міжнародных арганізацыяў, ён з жалем канстатаваў, што ў лютым дэлегацыя ПА АБСЕ не зможа наведаць Беларусь, бо «...беларускія ўлады выставілі непрымальныя ўмовы для прыезду». Адказнасць за ўсё горшы стан адносінаў Беларусі з міжнароднай супольнасцю прэзідэнт ПА АБСЕ ўсклаў на беларускае кіраўніцтва, ахарактарызаваўшы такую палітыку як «самаізаляцыю».

Адрыян Севярын таксама выказаў занепакоенасць «непрыязным» стаўленнем афіцыйнага Мінску да «нашых інстытутаў», як ён сказаў, маючы на ўвазе барацьбу беларускіх уладаў з місіяй КНГ АБСЕ. Ён заявіў: «Мы не маем намеру адступаць ад нашых прынцыпаў. І нам не павінны навязваць нейкія формы пагрозаў».

Такім чынам, міжнародная супольнасць вуснамі прэзідэнта ПА АБСЕ А.Севярына яшчэ раз заявіла пра гатоўнасць спрыяць інтэграцыі Беларусі ў міжнародную супольнасць, але гэты працэс мусіць адбывацца ў згодзе з міжнароднымі прынцыпамі.

**Прэс-служба АГП**

## Фрунзе стаў завулкам

У Полацку рашэннем гарадскога савету былой вуліцы Фрунзе нададзена імя Еўфрасінні Полацкай. Тым жа рашэннем былы 6-ы завулак Фрунзе набыў статус вуліцы, якой «з мэтай захавання гістарычнай назвы», як гаворыцца ў тэксце рашэння, пакінулі імя рэвалюцыянера-бальшавіка. Ініцыятар перайменавання – Полацкі гарвыканкам.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## Законапраект аб закрыцці партыяў

Папраўкі, якія паставяць палітычныя партыі ў больш жорсткія ўмовы дзейнасці, плануецца разгледзець на веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Як паведаміў БелаПАНу старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ Валерый Ліпкін, зараз у камісіі знаходзіцца законапраект, які прадугледжвае закрыццё партый за аднаразовае парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, што пацягнулі за сабой нанясенне «істотнай шкоды» правам і законным інтарэсам грамадзян і арганізацый. Прычым, як зазначыў старшыня пастаяннай камісіі, размова ідзе выключна аб грубых парушэннях заканадаўства. Да іх, згодна з праектам, адносяцца: парушэнні руху транспарту, гібель людзей, нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў аднаму ці некальким пацярпелым, нанясенне шкоды ў памеры 10 000 мінімальных зарплат і больш.

Гэты законапраект падрыхтаваны ў адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта ад 7 траўня 2001 году «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні парадку правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, іншых масавых мерапрыемстваў і пікетавання ў Рэспубліцы Беларусь».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

УЛАДА

## Рабочы шукае праўды

Рабочы мінскага заводу «Ударнік» Юрый Чацвярухін звярнуўся ў Беларускую ваенную пракуратуру з просьбай аднавіць расследаванне ў сувязі са смерцю яго жонкі. Яна загінула 27 кастрычніка 2001 году ў выніку наезду службовага аўтамабіля Мінскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратуры. За рулём знаходзіўся сяржант тэрміновай службы Фёдар Ардзяка — сын старшыні Мінскага гарадскога суду, які вазіў адната з кіраўнікоў пракуратуры.

У снежні 2001 году следства было спынена за адсутнасцю ў дзеяннях Ардзякі складу злачынства: у вадзіцеля нібыта не было тэхнічных магчымасцяў, каб прадухіліць наезд на пешахода.

Аднак блізкія нябожчыцы не пагадзіліся з гэтым і падалі скаргу. У ёй прыведзены аргументы, чаму расследаванне трэба прадоўжыць: «Робячы высновы аб адсутнасці ў вадзіцеля (...) тэхнічнай магчымасці па прадухіленні ДТЗ, следствам не прыняты пад увагу абставіны магчымага нанясення меншай шкоды пешаходу Чацвярухінай Н.Н. у выпадку, калі транспартны сродак рухаўся б з належнай хуткасцю 50 км/ч (машына рухалася з хуткасцю 70,9 км/ч). Для гэтага трэба было правесці адпаведную судова-медыцынскую экспертызу».

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАНу Юрый Чацвярухін паведаміў, што ў яго на руках засталася дзесяцігадовая дачка. Ён хацеў сустрэцца з бацькам Фёдара Ардзякі, але, нягледзячы на шматлікія спробы, з ім не ўдалося пагутарыць нават праз тэлефон.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Бурацца дахі

У мінулыя суткі зарэгістраваны два выпадкі абвальвання шыферных дахаў цялятнікаў у Кобрынскім (Брэсцкая вобласць) і Лёзненскім (Віцебская вобласць) раёнах. Прычынай стала снежнае покрыва, што ўтварылася на дахах цялятнікаў.

У вёсцы Гірск Кобрынскага раёну абваліўся ўчастак даху цялятніка калгасу «Усход», дзе знаходзілася 125 цялят. У той жа дзень пад цяжарам снежнага покрыва абваліліся на плошчы 480 квадратных метраў сцяна і дах цялятніка ў калгасе імя Калініна. 86 цялят, што знаходзіліся ў пабудове, не пацярпелі.

З пачатку году зафіксавана ўжо 10 выпадкаў абвальвання дахаў пабудоў. У пераважнай большасці з-за вялікай колькасці снегу на дахах цярпелі аб'екты аграпрамысловага комплексу.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Замест садавіны – дабаўкі ў хлеб

Кіраўнікі ўсіх прадпрыемстваў харчовай прамысловасці Мінску абавязаны ў найбліжэйшы час распрацаваць і ўвесці ў практыку тэхналогіі абагачэння прадуктаў вітамінамі і мікраэлементамі. Такое рашэнне было прынята ў рамках нарады «Нацыянальная палітыка ў галіне харчавання», якая прайшла ў Мінскім гарвыканкаме 22 студзеня. Нарада была прысвечана выкананню праграмы «Мінск – здаровы чысты горад» у частцы харчавання насельніцтва. У ёй узялі ўдзел прадстаўнікі гарвыканкаму, санітарных службаў, вытворцы прадуктаў харчавання.

Як адзначалася на нарадзе, харчаванне — надзвычай важны фактар, які ўплывае на стан здароўя, якасць і працаздольнасць жыцця насельніцтва. Сёння ў Мінску выпускаецца недастаткова прадуктаў, узбагачаных вітамінамі і мінеральнымі рэчывамі, не задавальняецца попыт насельніцтва на якасныя нізкакаларыйныя прадукты, у крамах гораду адсутнічае рэклама карысных для здароўя прадуктаў.

Паводле звестак дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру па экспертнай ацэнцы якасці і бяспекі прадуктаў харчавання Валерыя Мураха, каля паловы выпадкаў зачаснай смерці сярод жыхароў краіны ў веку да 65 гадоў выклікана хваробамі, якія ў значнай ступені абумоўлены недастатковым або няправільным харчаваннем. На працягу апошніх трох гадоў, паведаміў Мурах, асноўныя прадуктамі харчавання, якія спажываюць жыхары Беларусі, з'яўляюцца: малако і малочныя прадукты – 44% ад агульнай колькасці прадуктаў харчавання; хлеб – 16% і бульба – 13%. Гародніна і садавіна складаюць адпаведна толькі 11 і 4%. Такі рацыён, паводле словаў спецыяліста, не забяспечвае арганізм неабходнай колькасцю мінеральных рэчываў і вітамінаў. У ідэале малако і малочныя прадукты павінны займаць у структуры харчавання чалавека адну трэцюю частку, адну трэцюю – рыбныя і мясныя прадукты, рэшту – гародніна і садавіна.

**Лавінія АРЭШКА**

НАШЫ ВУЛІЦЫ



Мінск. Званок да мэра – каб браў рыдлёўку ды ляцеў прыбіраць снег

ТЭЛЕБАЧАННЕ

## БТ адгародзіцца рэжымам

У гмаху Рэспубліканскага радыётэлецэнтру на вуліцы Макаёнка, 9 узмацняецца ахова прапускнога пункту. Ля кругласутачнага міліцэйскага паста, на якім стаіць так званая рама металашукальніка і нядаўна ўсталявалі жалезны турнікет, плануецца зараз змантаваць найноўшую сістэму камп'ютэрнага кардону. Паводле адмысловага загаду адміністрацыі, кожны супрацоўнік Белтэлерадыёкампаніі, а гэта больш за 2 000 чалавек, павінен здаць у аддзел кадраў свой каляровы здымак. Наступнай працэдурай стане выдача шыфроўка пластыкавых пасведчанняў, пасля чаго можна будзе адсочваць час знаходжання кожнага з журналістаў на працоўным месцы. Паказальна, што актыўнасць цяперашняга кіраўніцтва БТ па ўзмацненні аховы свайго офісу да ўзроўню сакрэтнага аб'екту ўзрасла адразу пасля апошняй сустрэчы з А.Лукашэнкам, калі ў студыю неспадзявана «прасачыліся» так званыя апазіцыянеры і ўчынілі абструкцыю тады яшчэ магчымаму кандыдату на пасаду старшыні Я.Рыбакову. Цяпер тут будзе інакш, бо нескладаныя маніпуляцыі на механічным вартаўніку дазволяць заблакаваць уваход людзей з «чорнага спісу», а ў міліцыянтаў з'явіцца дадатковая падстава не пускаць іх нават на парог тэлевежы.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

МЯЖА

## На мясцовыя падаткі памежнікі глядзяць з пагардай

Атрымаўшы паводле бюджэтнага закону на сёлетні год дазвол на ўстанаўленне памежных збораў, сесіі Ельскага, Лельчыцкага, Гомельскага раёнаў Саветаў увялі мясцовыя падаткі з фізічных асобаў пры перасячэнні беларуска-украінскай мяжы на асабістым транспарце. Аднак на практыцы мясцовыя органы сутыкнуліся з супрацьдзеяннем перш за ўсё з боку айчынных памежнікаў.

Сесія Ельскага райсавету ўстанавіла, што падаткі пры перасячэнні мяжы павінны плаціць не толькі замежнікі, але і грамадзяне Беларусі, калі яны вяртаюцца з Украіны дамоў на ўласных аўтамашынах. За легкавік прадугледжаны збор памерам 5 даляраў ЗША, за мікрааўтобус – 10, грузавік – 15 даляраў. Але, як паведаміла загадчыца фінансавага аддзелу Ельскага райвыканкаму Валянціна Смяюн, рэальна на мяжы пакуль не сабрана ані цэнта. І не таму, што праз беларуска-украінскую мяжу едуць толькі льготнікі – ветэраны, дыпламаты, культурніцкія дэлегацыі, якім, паводле рашэння сесіі райсавету, не трэба плаціць згаданы збор. Справа ў іншым. Папросту памежнікі кантрольна-прапускнога пункту «Новая Рудня» не жадаюць бачыць на сваёй тэрыторыі мясцовых зборшчыкаў падаткаў. Не хочуць яны выконваць і функцыі кантралёраў мясцовых збораў.

Загадчыца райфінаддзелу спадарыня Смяюн даслала камандзіру Гомельскага памежнага атраду палкоўніку Бутранцу, якому падначалены ельскія ахоўнікі мяжы, адмысловы ліст. У ім фінаддзел патрабуе змяніць стаўленне да мясцовых збораў.

Не знаходзіць пакуль паразумення з памежнікамі ды мытнікамі і Гомельскі райвыканкам, хоць на падставе рашэння сесіі райсавету і ён павінен браць плату з замежнікаў на пункце пропуску «Новая Гута».

**Казімір ЯНОЎСКІ**

## Салдаты для калгасаў

Ужо больш як 30 старшыняў калгасаў Пінскага, Столінскага і Лунінецкага раёнаў падпісаліся пад калектыўным зваротам да Брэсцкага аблвыканкаму і міністэрства абароны РБ. Кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў просяць начальнікаў і генералаў ва ўладзе і войску адмовіцца ад перадыслакацыі з беларускага Палесся 36-й дарожна-камендацкай брыгады. Салдаты, якія забяспечваюць пераправы на рэках, рамантуюць масты і дарогі, патрабуюцца для працы ў тамтэйшых калгасах заўжды, а асабліва цяпер, калі ўзнікла пагроза вялікай паводкі на Прыпяці, Гарыні, Ясельдзе.

На Брэстчыну тэрмінова наведаўся камандуючы сухапутнымі войскамі генерал-маёр Юрый Партноў, які паведаміў, што ў выніку рэфармавання беларускай арміі створаныя дзве новыя структуры аператыўна-стратэгічнага камандавання. Адной з іх падпарадкоўваецца ваенна-паветраныя сілы і войскі супрацьпаветранай абароны, другой – сухапутныя войскі. Пераразмеркаванне функцыяў і задачаў пры наяўным патэнцыяле людзей і тэхнікі прымушае канцэнтраваць мабільныя сілы бліжэй да штабоў кіравання. Ваенных дарожнікаў з Пінску, напрыклад, плануецца перадыслакаваць у адзін з райцэнтраў паблізу Мінску, каб яны шліфавалі сваё баявое майстэрства на ўдарных аб'ектах кальцавой дарогі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

ЭКАЛОГІЯ

## Рыбалка без абмежаванняў

Найноўшы дакумент міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя РБ за подпісам намесніка міністра В.Падаляка дазваляе ўсім наведнікам 10 рыбных сажалак у 4 раёнах Брэсцкай вобласці лавіць рыбу без абмежаванняў яе колькасці і сродкаў здабычы. Гэта, аднак, запозненая рэакцыя экалагічнага ведамства на крытычную сітуацыю масавай гібелі рыбы ад замору. Пад тоўстым лёдам са снегам наверсе вадаёмы ўжо напрыканцы снежня пачалі імкліва траціць запасы кіслароду. У першай дэкадзе студзеня парогавае ўтрыманне яго знізілася да 0,5 мг/л, што выклікала заморы не толькі шчупака і акуня, але і карпа, карася, уюна. Патрабавалася загадзя біць дзіркі ў лёдзе і ладзіць прадухі, каб папярэдзіць экалагічную катастрофу.

І хоць цяпер, калі знятыя ўсе абмежаванні, на Палессі ловяць заморную рыбу ў палонках ля берагоў, аднак вадаёмы Кустовічы, Хабовічы ў Кобрынскім раёне, Разлівы ў Маларыцкім, Кабелка ў Брэсцкім і іншыя хутчэй за ўсё застануцца ў найбліжэйшыя гады мёртвымі. Тут на бязрыб'і пачнуць бесперашкодна пладзіцца вадзяныя клапы, скарпіёны, плавунец і іншыя насякомыя, ад якіх вада забрудзіцца і засмярдзіць.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Асаблівасці нацыянальнай прыватызацыі

Не буду хаваць, што я як грамадзянін Беларусі, стаіўшы дыханне, слухаў выступ прэзідэнта на нарадзе па перспектывах развіцця нафтахімічнага комплексу. Прэзідэнт быў пераканаўчы. Перспектывы ўскружылі галаву. Я зразумеў: распродаж дзяржмаёмасці задарма нам не пагражае. Палітыка «ўхвалення ў ходзе нядаўніх выбараў дзвюма трэцімі насельніцтва» пачынае даваць плады. Як тут ні парадавацца, калі жадаючых узяць удзел у прыватызацыі «шмат, пра што кажуць частыя візіты дзелавых людзей як з усходу, так і з захаду. І, зыходзячы з таго, колькі сродкаў гатовы ўкласці ў беларускую эканоміку інвестар і колькі атрымае ў выніку дзяржбюджэт, цяпер ужо ёсць выбар». Але дзяржбюджэт — гэта і стыпендыя, і зарплата бюджэтнікаў. Дзяржбюджэт — гэта для нас. Памятайце – «Дзяржава – гэта мы!».

Не, Беларусь не паўторыць чужых памылак. У нас «усё будзе шчыра, адкрыта і гладка». Усяго я налічыў 19 умоваў. Кожная — як цвік у накрыўку труны махлярам і казнакрадам: «захаванне сацыяльных гарантый», «стварэнне новых працоўных месцаў», «ўласныя сыравінныя рэсурсы», «захаванне за дзяржавай кантрольнага пакету акцыяў», «згода паміж працоўным калектывам і яго кіраўнікамі, мясцовымі ўладамі і самім прэзідэнтам» і г.д. «А галоўнае – наш прэзідэнт ніводнаму бізнесмену, у тым ліку і расійскаму, ні капейкі не вінны. Значыць, і абяцаць коштам народу сваёй краіны якіх-небудзь прэферэнцый не збіраецца». Апошняе сапраўды надзвычай важна. Так, дзяржаўны доўг Беларусі перад Расіяй толькі за энергарэсурсы ўжо шмат гадоў вагаецца ў межах 1 млрд. даляраў. Але ж тое дзяржаўны. Асабіста прэзідэнт нікому ні капейкі не вінны.

Нарада па пытаннях прыватызацыі адбылася ў канцы снежня мінулага году. Па яе сканчэнні кіраўнік Нацбанку Пётр Пракаповіч заявіў, што «пакуль мы толькі чакаем інвестыцый». Аднак на дварэ канец студзеня, і знакамітае рэкламнае «чакаемс...» незаўважна ператварылася ў «дачакаліся...».

Вы будзеце смяяцца, але рэкламны сюжэт меў працяг. Мы дачакаліся... першай зоркі. Прададзеная частка пакету акцыяў гатэлю «Планета». У нашай роднай «Планеты» адкрываецца зорная перспектыва. Перспектывы іншых беларускіх АТ аказаліся не такімі зорнымі. Першы конкурс па продажы нерухомасці быў прызначаны на 26 снежня 2001 году. Далей каторы раз працытую адну з салідных дзяржаўных газет: «Але конкурс не адбыўся. Па дзіўнай прычыне. Ніхто не адгукнуўся. Праз два дні правялі яшчэ адзін конкурс, у межах якога на продаж выставілі акцыі яшчэ 47 таварыстваў». Вынік? Прададзены адзін пакет.

Прычына дзіўная! Дзяржава абвяшчае конкурс. Прэзідэнт выразна фармулюе 19 умоваў, а ніхто не адгукнуўся! Спадарства з усходу, з захаду! У вас што, у вушах бананы?

Тут самы час паразмаўляць пра асаблівасці беларускай прыватызацыі. Не, не толькі беларускай. Любой. Усе яны праходзяць па адным сцэнары, і пішуць яго не чыноўнікі, хай сабе самага высокага рангу. Распродаж дзяржмаёмасці ў нацыянальных маштабах заўсёды і паўсюль адбываецца не ад добрага жыцця.

Ва ўмовах крызісу дзяржава хапаецца за яе, як за саломінку. І тут, як кажа навука, «кошт здзелкі заўсёды прыносіць у ахвяру тэмпу». Вы бачылі калі-небудзь чалавека, які тоне і гандлюецца наконт умоваў ратавання? Замежныя інвестары — не штатныя ратавальнікі. Яны, як і наш прэзідэнт, нікому нічога не вінны. Крызіс — заўсёды рызыка.

Магчыма, для чыноўнікаў прэзідэнт і гарант чаго-небудзь, але прыбышы могуць мець і іншае меркаванне на гэты конт. Мала што з усенародна перавыбраным можа здарыцца. Раптам паслізнецца, хоць бы на бананавай скуры. А правапераемнік тут і дадасць да 10 вырашальных яшчэ 25 пунктаў! Але ёсць і іншая прычына, якая аб'ектыўна зніжае кошт прыватызаваных прадпрыемстваў. Улада, занятая праблемай собскага выжывання ва ўмовах крызісу, цягнуць час не можа. Адсюль і пакеты акцый адразу 47-мі АТ.

Безумоўна, дзяржава, праводзячы прыватызацыю, можа ставіць і іншыя задачы. Хто толькі ні кідаў камяня ў чубайсаўскія ваўчары. Але ўрад Гайдара, «адорваючы» народ чэкамі, добра ведаў гісторыю і не меў ілюзіяў. Агромністай Расіі, якую раздзіралі супярэчнасці, быў патрэбны ўласнік і свой уласнік. Толькі новая эліта, якая ўзнікла ў выніку перападзелу, магла стацца апірышчам улады. Так заўсёды завяршаюцца рэвалюцыйныя ператварэнні, усё роўна дзе, у Францыі пачатку XIX стагоддзя ці ў Англіі сярэдзіны XVII-га.

Дарэчы, пра Англію. Калі эканамічны крызіс «дастаў» Кромвеля і ўлада павісла на валаску, ён выпусціў ваўчары. Менавіта чэкавая прыватызацыя выратавала дыктатара. Для задушэння мяцежнай Ірландыі патрэбная была армія, а ахвочых ваяваць так і не знайшлося. Тады Кромвель выдаў салдатам абавязанні, якія давалі права на ірландскія землі. Што ён мог яшчэ зрабіць пры пустой казне?

Наступствы прыватызацыі па Кромвелю-Чубайсу ўгадаць не цяжка. Салдаты не сталі ганяцца за жураўлямі ў пахмурным брытанскім небе. Яны аддалі перавагу сініцам у руках і хуценька прадалі «чэкі» мясцовым беразоўскім. Натуральна, затанна. А як магло быць інакш пры масавым распродажы! Гадоў пяць потым яшчэ сучаснікі Кромвеля панасілі яго за нахабны падман «працоўнага народу». Але быў і іншы вынік. Менавіта з гэтага часу Англія патроху становіцца майстэрняй свету і ўладаркай мораў. А ўласнасць? Уласнасць засталася ў тых, хто жадаў і ўмеў яе памнажаць.

Беларусь разам са сваім прэзідэнтам выбрала іншы шлях. Першага выніку дасягнулі: беларускіх уласнікаў «няма і не вырабляецца». Цяпер па законах рынку дзяржмаёмасць рана ці позна, але за капейкі прададуць, якімі залатаюць дзіркі ў бюджэце, а бюджэт выдасць іх нам на падтрыманне пачуцця талерантнасці, якім мы славімся ў свеце. Вось і ўсё. Але нацыянальная асаблівасць у беларускай прыватызацыі ўсё-такі ёсць. Яна — у асобе нашага прэзідэнта, у ягоных 19 пунктах, у ягонай рашучасці і ў веры шмат каго з нас ва ўсё гэта.

Сяргей НІКАЛЮК

Фота Ул. ШЛАПАКА

Мінск, вул. Багдановіча. Былы магазін «Гароднiна» ў працэсе прыватызацыі ўжо тры гады на замку

# «Зона» для мігрантаў

*Чарнобыльская катастрофа спрычынілася да вялікага перасялення людзей. Паводле афіцыйных звестак, забруджаныя радыяцыяй тэрыторыі пакінулі 131,2 тысячы чалавек, большасць з іх – з Гомельскай вобласці.*

Сутыкнуўшыся на новых месцах са шматлікімі праблемамі, шмат хто з перасяленцаў палічыў за лепшае вярнуцца ў свае родныя паселішчы.

У сакавіку 1995 году Аляксандр Лукашэнка, упершыню ў якасці прэзідэнта краіны наведаўшы забруджаны Брагінскі раён, сфармуляваў у вёсцы Савічы новы падыход да самасёлаў: «Хочаце жыць – жывіце!». І гэта ў вёсцы, дзе ўсё наваколле насычана не толькі цэзіем, але і стронцыем.

Неўзабаве быў сцверджаны парадак спрошчанага афармлення дакументаў для тых мігрантаў, хто прыязджае ў пацярпелыя ад Чарнобылю раёны. Такім чынам улады намагаліся паўторна засяліць забруджаныя раёны перасяленцамі з Расіі, Казахстану, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя. І прыязджалі ў «зону», як правіла, не самыя лепшыя.

Брагінскія міліцыянеры распавядалі, што яны вылавілі мігранта з Паўднёвага Сахаліну, які ўчыніў там забойства. Яшчэ адзін перасяленец з Карэліі забіў супрацоўніка міліцыі і хаваўся ў Брагіне. Ахоўнікі парадку пераканаваны, што наркаманію прывезлі ў раён мігранты з Сярэдняй Азіі.

Павялічыліся ў «чарнобыльскіх» раёнах крадзяжы, махлярства, забойствы і калецтвы на бытавой глебе. Гэта, канешне, у нейкай ступені прымушае органы міліцыі больш уважліва адносіцца да ладу жыцця новай хвалі перасяленцаў, карані якіх не звязаны з Беларуссю ды Гомельшчынай, у прыватнасці.

**За мінулы год упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкаму і раённых міграцыйных камісіі вынеслі 166 пастановаў пра дэпартацыю замежных грамадзянаў, якія прыехалі ў рэгіён і паводзілі сябе не лепшым чынам.**

Сярод дэпартаваных ёсць в'етнамцы, ізраільцяне, іарданцы, але найбольш выходцаў з краінаў СНД. У прыватнасці, назад у Азербайджан дэпартавалі 51 чалавека, у Малдову – 22, ва Украіну – 19, Арменію – 17, Расію – 12, Грузію – 11. Менш за дзесятак — у Кіргізію, Казахстан, Узбекістан.

Леташняя дэпартацыя, у тым ліку і з забруджаных радыяцыяй раёнаў, — гэта толькі невялікая частка працэсу выпраўлення тых, хто пасяліўся ў вобласці, скарыстаўшы спрошчаны парадак афармлення дакументаў. Прынамсі, толькі ў Нараўлянскі раён прыехалі каля 900 чалавек. І вось другі бок медаля. За апошнія два гады мігранты ўчынілі тут звыш за 200 злачынстваў.

Характэрнай падаецца і статыстыка пацярпелага ад Чарнобылю Веткаўскага раёну. Са 138 мігрантаў, што атрымалі від на жыхарства, паўтара дзясятка нідзе не працуюць. За мігрантамі — 2 забойствы, 2 рабункі, разбой. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 67 чалавек. Такія звесткі падае абласная пракуратура.

У сваю чаргу медыкі ўпэўненыя, што менавіта з перасяленцамі з краінаў СНД звязаны і рэзкі скачок у «чарнобыльскіх» раёнах інфекцыйных захворванняў. Апроч таго, яны прывозяць з сабою і рэдкія хваробы. Да прыкладу, малярыю і нават халеру.

Нягледзячы на ўсё гэта, практыка перасяленняў працягваецца. За 2001 год у рэгіёне від на жыхарства атрымалі 3 811 мігрантаў.

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ

# Будзем будаваць АЭС?

Лукашэнка хоча пабудаваць АЭС да трэціх прэзідэнцкіх выбараў, прычым на Магілёўшчыне.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў найбліжэйшыя гады краіна мусіць «вызначыцца» з пытаннем пра магчымасць пабудовы на сваёй тэрыторыі атамнай электрастанцыі.

Выступаючы ў аўторак у Мінску перад беларускімі навукоўцамі, А.Лукашэнка адзначыў: калі ў «гэты бліжэйшы перыяд мы не вызначымся, то затым пойдзе суцэльная палітыка». У ходзе наведвання кіраўніком дзяржавы інстытуту цепла- і масаабмену Нацыянальнай Акадэміі навук беларускія навукоўцы заявілі аб перспектыўнасці пабудовы АЭС у Беларусі. «Галоўнае – вырашыць «палітычную праблему», звязаную з пераадоленнем «чарнобыльскага сіндрому», — сказаў дырэктар інстытуту Алег Мартыненка.

Навукоўцы паведамілі прэзідэнту пра тое, што на пабудову аднаго энергаблоку АЭС патрэбна 1,5 млрд. даляраў. У сваю чаргу, як удакладніў дырэктар інстытуту, штогоду Беларусь аплачвае пастаўкі энергарэсурсаў у памеры 2 млрд. даляраў. Паводле інфармацыі «*Інтерфакса*», за «асноўную пляцоўку» для пабудовы АЭС у Беларусі вызначана месца ў Чавускім раёне Магілёўскай вобласці. У якасці рэзерву разглядаецца пляцоўка ў Горацкім раёне Магілёўскай вобласці. Мінск вывучае таксама магчымасць свайго ўдзелу ў пабудове энергаблоку на Смаленскай АЭС.

УА «ИНТЕРФАКС»

# Нацбанк запасае даляры

На 1 студзеня 2002 году чыстыя замежныя актывы (ЧЗА) органаў грашова-крэдытнага рэгулявання Беларусі (урад і Нацбанк) склалі 227 млн. даляраў ЗША і павялічыліся ў параўнанні з мінулым годам больш чым у паўтара раза. Пра гэта 23 студзеня на прэс-канферэнцыі заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банку Беларусі Пётр Пракаповіч. Паводле яго слоў, гэты паказчык аказаўся вышэйшы за прагназаваны (які складаў 172 млн. даляраў).

Як паведаміў Пракаповіч, Нацбанк арыентуецца на максімальны варыянт, пры якім прырост ЧЗА ў 2002 годзе можа скласці 236,4 млн. даляраў, а па мінімуму прырост ЧЗА запланаваны ў памеры 27,9 млн. даляраў.

Што тычыцца золата, то на сёння залаты запас Беларусі складае 10,1 тоны, і гэта, паводле слоў Пракаповіча, «адпавядае нашай палітыцы і той долі, якую залаты запас павінен займаць у золатавалютных рэзервах у цэлым». Залаты запас не будзе нарошчвацца ў найбліжэйшы час да той пары, пакуль Нацбанк не назапасіць дастаткова валюты, зазначыў ён.

Летась Нацбанк авансаваў золатаздабываючыя прадпрыемствы Расіі на 15 млн. даляраў і, як сказаў Пракаповіч, «у канцы году ўсе гэтыя грошы вярнуліся». Зараз Нацбанкам разглядаюцца прапановы расійскіх золатаздабываючых прадпрыемстваў і банкаў па авансаванні на 2002 год, але яго памеры не будуць большымі за леташнія, паведаміў кіраўнік Нацбанку.

Аляксей АРЭШКА

СВЕДЧАННІ

# Мэта інтэграцыі – рахманая Беларусь

Дасягнутая прэзідэнтамі Расіі і Польшчы дамоўленасць аб будаўніцтве першай ніткі газаправоду «Ямал–Еўропа» цераз тэрыторыю Польшчы азначае для Расіі «яшчэ большую зацікаўленасць» у развіцці з Беларуссю Саюзнай дзяржавы. Пра гэта, як паведамляюць расійскія СМІ, заявіў 22 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Маскве дырэктар Інстытуту краін СНД Канстанцін Затулін.

«Нам было б выгадна, каб газаправод не пераўтвараўся ў сродак шантажу Расіі з боку Беларусі. Уявіце сабе, што Саюзная дзяржава не адбылася і да ўлады прыйшоў, скажам, палітык, нейтральна настроены ў адносінах да Расіі. Мы атрымаем тую ж сітуацыю, якая ўвесь час была з Украінай», — лічыць Затулін. Па яго меркаванні, неабходна як мага хутчэй дасягнуць «незваротнасці стварэння Саюзнай дзяржавы». Аднак, заявіў Затулін, у цяперашняга расійскага кіраўніцтва «ёсць сур'ёзныя праблемы з разуменнем гэтай неабходнасці». «Маё ўражанне, што паміж Пуціным і Лукашэнкам няма добрага асабістага кантакту. Гэта дэманструе той факт, што ўсе думкі Лукашэнкі аб магчымасці стаць кіраўніком Саюзнай дзяржавы пасля Ельцына больш не агучваюцца. Яны апошнім часам вымушана адменены». На думку дырэктара Інстытуту краін СНД, гэта зніжае асабістую зацікаўленасць Лукашэнкі ў Саюзнай дзяржаве.

Затулін лічыць, што на ўзроўні адміністрацыі Крамля зараз адмовіліся ад курсу на аб'яднанне. «Прынята лічыць, што нам у першую чаргу трэба адмовіцца ад выбараў у саюзны парламент і не трэба падпісваць Канстытуцыйны акт, а трэба выраўняць эканамічныя адносіны і праводзіць эканамічную інтэграцыю. Сама па сабе эканамічная інтэграцыя не дае незваротнасці ў стварэнні Саюзнай дзяржавы», — заявіў Затулін. Цяперашняя пазіцыя адміністрацыі Пуціна, лічыць ён, – гэта страта шанцу не толькі для Расіі, але і для дэмакратыі ў Беларусі: «Калі пакінуць Беларусь сам-насам з Лукашэнкам, пакінуць усё як ёсць, то ён будзе правіць заўсёды. Ён ведае, на якой мове размаўляць з насельніцтвам, ён ведае, як пераводзіць стрэлкі, як знаходзіць вінаватых». На яго думку, неабходна правесці, у першую чаргу, выбары ў саюзны парламент. «У недаацэнцы ролі парламенту бачыцца наш стыхійны антыпарламентарызм. Дзякуючы актыўнасці нашых уладаў, людзі разумеюць, што дэпутат — альбо ідыёт, альбо нягоднік, альбо Жырыноўскі. А на самой справе парламент аднаўляе феномен агульнай палітычнай прасторы з Беларуссю, уцягвае палітычныя сілы Расіі і Беларусі ў зацікаўлены дыялог», — заявіў Затулін. Палітолаг упэўнены, што ў выпадку развіцця такога дыялогу праз некаторы час «выявіцца, што ў Беларусі ёсць і больш выдатныя інтэгратары, чым Лукашэнка». На думку Затуліна, калі не зрабіць тэрміновых захадаў, каб надаць незваротнасць працэсу аб'яднання, «можа аказацца, што ахвяры, якія мы нясём для аб'яднання, фінансавыя, эканамічныя, не будуць апраўданыя», у тым ліку стаўка на газапровод праз Польшчу як альтэрнатыўны шлях транзіту газу ў Еўропу.

Дзмітрый УЛАСАЎ

# Хамы і анёлы

*Я добра разумею тых публіцыстаў, якія баязліва назіраюць сёння за чарговым этапам нашэсця хамства ў публічнае жыццё. Аднак, памойму, было б непаразуменнем звязваць гэта проста з захопам улады камуністамі. Няпраўда, што тады ўзялі слова «неадукаваныя, абсалютна нявыхаваныя людзі, невукі і хамы». Нараканні, якія мы цяпер чуем, маюць доўгую гісторыю.*



Адам Міхнік (1946), эсэіст і публіцыст, грамадскі дзеяч. У семідзесятыя гады - сябра Камітэту абароны рабочых і рэдактар нелегальных часопісаў *Zapis i Krytyka*. Выпусціў некалькі зборнікаў, у тым ліку «Царква, левыя, дыялог» (1987). Пасля 1989 году – дэпутат Сейму РП, галоўны рэдактар штодзённай газеты *Gazeta Wyborcza*.

20 гадоў таму публіцыст Петр Вежбіцкі напісаў «Трактат аб гнідах» – рэзкі памфлет на апартунізм і фальшывасць польскіх культурных элітаў. Аўтар назваў іх гнідамі – баязлівымі пісакамі, якія блытана абгрунтоўваюць сваю службу таталітарнай уладзе. Мне гэты нарыс падаўся небяспечна аднабаковым і грубым адлюстраваннем свету. Я сам сябе адчуў «гнідай» і напісаў рэпліку пад назваю «Гніды і анёлы». І вось прайшлі гады, і я чытаю нарыс гэтаксама цудоўна напісаны, але і гэтаксама аднабаковы па сваёй канструкцыі – памфлет супраць Хамаў, напісаны ў гонар «шляхетных і адукаваных». Таму хачу заявіць: «Я Хам»! Вітальд Гамбровіч, згадваючы міжваеннае дваццацігоддзе, неадназначна пісаў пра сваю боязь Хама. У гэтага страху вялікія вочы і доўгая гісторыя. Ён захаваўся да гэтых дзён. Гэты страх не абсурдны.

Артэга-і-Гасэт, аўтар знакамітага трактату «Паўстанне масаў», лічыў, што ўжо ў сярэдзіне XIX стагоддзя пачаўся адкат у бок варварства, то бок «паварот да наіўнасці і прымітыўнасці людзей, якія не маюць мінулага або на яго забыліся». Бальшавізм і фашызм, на думку Артэгі, – гэта «тыповыя рухі пад кіраўніцтвам людзей другога гатунку, пазбаўленых гістарычнай памяці і гістарычнай свядомасці».

Рэч у тым, што бальшавізм і фашызм былі прыдуманыя не Хамам, а ў большай (Маркс) ці меншай (Габіно) ступені вытанчанымі інтэлектуаламі. Хаму было адведзена месца грамілы альбо чыноўніка ў ніжэйшых эшалонах улады. Верхнія ступені і салоны прызначаліся людзям з новых элітаў, адурманеных наркатычнай захопленасцю сілай, трызненнем уласнай ідэалогіі.

Не фашызм і не бальшавізм праклалі Хаму шлях у салоны. Гэта зрабіў прынцып агульных парламенцкіх выбараў. Голас Хама стаў важным, ягоная думка запатрабавала павагі. Ад Хама мог залежаць вынік галасавання; гэта Хам баставаў на заводзе або паслухмяна працаваў. Хам арганізоўваў мітынгі і дэманстрацыі, Хам патрабаваў васьмігадзіннага працоўнага дня. Хам пачаў балатавацца ў парламент. І, нарэшце, Хам загаварыў уласным голасам. Калі ў 1912 годзе ў галіцыйскім сейме кансерватыўныя парламентарыі выклікалі былі здань «новага Шэлі»(1), ім адказаў кіраўнік сялянскага руху Вінцэнт Вітое: «Я мушу рашуча выступіць супраць абуджэння прывідаў 1848 году, супраць таго, каб верадзіць гэтую загоеную рану і прыгадваць гэты факт тым, хто ў ім не ўдзельнічаў і хто ні ў чым не вінаваты... Сёння, думаю, не зашкодзіць сказаць, што гэты страшны чын народ здзейсніў у прыпадку шаленства і жарсці, выкліканых пачуццём абразы, якая чынілася цягам многіх стагоддзяў. Вы ж, са свайго боку, прывялі да гэтага шляхам шматвекавога грэбавання выхаваннем даручанага вам народу, шляхам самых жахлівых абразаў і злоўжыванняў. Бо вы былі панамі жыцця і смерці, вы вучылі, а селянін здаў іспыт».

Так гучаў адказ Хама, які запатрабаваў права на годнасць напярэдадні XX стагоддзя.

А потым была Першая сусветная вайна і прыгожы момант узнаўлення незалежнасці. Аднак эйфарыя цягнулася нядоўга. Ужо ў 1920 годзе лёс маладзенькай Рэчы Паспалітай павіс на валаску: у Польшчу ўварвалася бальшавіцкая армія, якая абвясціла лозунг «Уся ўлада ў рукі Хамаў». Але Хам не паслухаў бальшавікоў. Хам пайшоў у польскую армію і абараніў Рэч Паспалітую ад чырвонаармейскіх збаўцаў. Пра гэта пісаў глыбока ўсхваляваны Стэфан Жэромскі:

*«Хто ў момант нашэсця маскалёў на краіну выходзіў бараніць свой палац, сядзібу, дом у горадзе, свой фальварак(...) – той ведаў, што ён бароніць, баронячы Радзіму. Але той, хто не меў зусім нічога, той, баронячы Радзіму, не ведаў, за што змагаецца. (...) Ён бараніў чужыя каштоўнасці, бараніў недатыкальнасць палацу, шчаслівага квітнення панскага дому, права на кватэрную плату ў гарадскім доме, бараніў кватэры, якіх ніколі не бачыў і ніколі не пабачыць, нарэшце, бараніў уладу, якая пачасту яго самога топча бязлітаснай пятою. (...) Калі гэты грамадскі гной, які мы таптталі, як таптталі яго нашыя папярэднікі, што валадарылі над ім – маскалі і немцы, — узяў вінтоўку і разам з панамі, з мяшчанамі, з інтэлігенцыяй, з сялянамі і заводскімі рабочымі пайшоў біць ворага, у бойцы сплываў крывёю і здабыў разам з іншымі перамогу, то гэты ягоны ўчынак робіць нас абавязанымі перад ім. Яму належацца не з'едкі з панскага стала, не міласці, не прэмія за пралітую кроў, а вяртанне ўсяго, што ёсць у яго на радзіме (...).»*

*Мы павінны непахіснымі доказамі абвергнуць думку, быццам мы – народ паноў і шляхты, краіна цемрашалаў. Нібыта наша войска было... белай арміяй Пілсудскага. Свет працоўных на Захадзе і Усходзе, у Англіі, у Францыі, у Італіі, у Амерыцы, у самой Нямеччыне і ў самой Расіі мусіць ведаць: няпраўда, быццам Польшча была жандарам буржуазнай Еўропы, які нясе на сваіх штыхах прысуд сусветнаму прагрэсу. Мы не можам дапусціць, каб перамога над Чырвонай Арміяй на полі бітвы ў абарону граніц нашай Радзімы, у абарону нашага народу, аб'яднанага ў племя аднамоўнае, нераздзельнае, неразрыўнае, самаўладнае навекі, у абарону нашае мовы і свабоды ўсталявання правоў стала трыумфам слою багацеяў, паноў, заможнікаў і паразаў галотных, перашкодаю на шляху прагрэсу. Перамогшы бальшавізм на полі бітвы, мы павінны скрышыць яго ідэю. На месца бальшавізму трэба паставіць прынцыпы больш высокія, чым ён, больш справядлівыя, мудрыя і дасканалыя (...)».*




Потым, у выніку гітлераўскай і савецкай акупацыі, эміграцыі і смяротных караў, Польшча ахамела. Уся Польшча – як камуністычная, Польшча калабарацыі, так і Польшча антыкамуністычная, антысавецкая. Хам калектывізаваў, атэізаваў, саветызаваў Польшчу. Але другі Хам праціўіўся гэтаму. Хам з Польшчы наздзекаваўся, і Хам Польшчу абараніў.

Я не вінавачу «шляхетных і асвечаных». Яны таксама сталі па абодва бакі барыкад. Яны разумелі ўсю складанасць свету, сакрэты дыялектыкі, тайны геапалітыкі, патрэбу абароны нацыі.

Хам бяздумна служыў камунізму і гэтаксама бяздумна распальваў мяцеж. У Познані ў 1956 годзе, у сакавіку 1968, у снежні 1970. І толькі ў ліпені 1976 году мяцежны Хам сустрэўся са збунтаваным «шляхетным і асвечаным». «Шляхетны і асвечаны» фармуляваў тэорыі грамадзянскай супольнасці і грамадскай абароны. Хам рэагаваў больш сваім чэравам, чымся розумам. Таму ён казаў: «так, так» – «не, не». Часцей казаў «так». Але сваё «не» ён патрапіў прамовіць гэтак пераканаўча, што страсянуў падваліны савецкай імперыі.

Дзіўны быў гэты Хам – сярод кіраўнікоў забастовак у 70-80-х гадах хапала чальцоў ПАРП.

Паспрабуйма гэта зразумець – камуністычная Польшча прасоўвала Хама. Дала яму зямлю, дазволіла пераехаць з правінцыі ў горад. Нарэшце, дала яму пачуццё гонару, хоць і аблуднага.

Хама ўзвышалі паўсюдна: рабочы, стаханавец, опер. Хам з замілаваннем слухаў пра тое, што «не адукацыя, а шчырае жаданне – аснова афіцэрскіх пагонаў». Хам цешыўся, калі яго вылучалі ў дырэктары. Інакш кажучы: Хам, які рассеўся ў салонах улады, быў неад'емнай часткаю камуністычнае хлусні пра грамадскую справядлівасць. Але другі Хам выкрыў хлусню камуністаў і салонаў улады. (...) Лех Валенса, Збігнеў Буяк, Уладыслаў Фрасынюк – гэта яны, Хамы з «Салідарнасці», зрынулі камунізм.

Таму я быў, ёсць і буду на баку Хамаў. (...) Але я ведаю, што ўсё гэта не так проста. Саюз інтэлігенцыі левага кшталту з простым людам, то бок Хама з «шляхетнымі і асвечанымі», ад пачатку будаваўся на хлусні і вёў да чарговае хлусні.

Хам – нагадайма – ухваляў камуністычны рэжым, бо той не прымушаў Хама ламаць шапку перад панам і цалаваць яму руку; паклаў канец штодзённаму прыніжэнню. Левы, «шляхетны і асвечаны», бунтаваўся супраць умоўнасцяў Старога Ладу, неад'емным складнікам якіх было якраз гэтае прыніжэнне.

«Фанабэрыстая інтэлектуальная марыянетка» часамі бывала адважным і разумным інтэлектуалам, здатным на гераічныя подзвігі; але Хам умее ператварыцца ў мудрага правадыра – спярша Вялікага Страйку, а потым і ўсяе нацыі. Гэты Хам здзівіў і прывёў у захапленне ўвесь свет. Гэта ён зрушыў з месца сусветную брылу.

Чаму ж я адчуваю сябе больш Хамам, чымся «шляхетным і асвечаным»? Бо мы, Хамы, не ўмеем так добра хлусіць – нас выдаюць прымітыўныя манеры, вульгарныя словы і падсвядомая шчырасць.

Мы, Хамы, ведаем, што наша вульгарнасць і жорсткасць у грамадскім жыцці родзіцца або як рэвалюцыя – у выніку галечы і прыніжэння – або з набліжанасці да дэспатычнай улады, якая дазволіць прыніжаць іншых. Мы больш жорсткія і хамаватыя, але прынамсі не распавядаем казак пра спрадвечныя традыцыі, нацыянальныя каштоўнасці і гістарычную неабходнасць.

І мы, Хамы, гледзячы на маніфестацыі нашых братоў, калегаў з шахтаў і верфяў, металургічных заводаў, на іх адчайныя твары і іх недарэчныя лозунгі, разумеем, пра што ідзе гаворка. Гэта яны выбілі страйкамі свабоду – і гэта яны сталі яе ахвярамі. Яны верылі, што сваімі страйкамі адваююць спакойнае жыццё і дабрабыт, а пасля трыумфу свабоды ім у твар зірнула беспрацоўе. Гэта ў іх з'явілася пачуццё пройгрышу, пройгрышу не са сваёй віны.

Мы, Хамы, разумеем, што рынкавая эканоміка кіруецца сваімі законамі, але памятаем, што страх і боль таксама маюць свае законы.

Мы, Хамы, ведаем, што трыумфуючы невук і дыпламаваны баран ані не лепшыя за Хама з былой наменклатуры. Адно што той яшчэ больш крывадушны.

Не думаю, каб тут вырашала мая адукацыя або прафесія. Вырашае тут самавызначэнне: быць хамскага кшталту – гэта значыць стаць на бок пакрыўджаных, прыніжаных, на бок тых, хто прайграў, – і пачувацца часткаю іхняга свету.

Над прыгожаю польскай зямлёю чуваць Вялікі Плач. Гэта анёлы аплакваюць грэшныя паводзіны палякаў. Дзесяць гадоў таму назад пачаўся плач з нагоды таго, што польскія інтэлектуалы – гніды, баязлівыя, крывадушныя апартуністы і калабарацыяністы. Падчас ваеннага становішча мы чулі плач, што ў Польшчы пануе згубны дух антыдзяржаўнага радыкалізму. Цяпер мы зноўку адусюль чуем, што Польшча гіне то з-за тайнай улады камуністаў, якія абярнуліся лібераламі, то з-за ўсяўладнасці распаразаных Хамаў.

Кожны раз у гэтым плачы чуваць і хлусня, і праўда: хлусня – калі агульна ганіцца ўсё, праўда – калі мы даведваемся, што не ўсё ў нас ладзіцца.

**Заўвага:**

*1. Якуб Шэля на чале галіцыйскіх сялянаў патапіў у крыві палову нацыянальнага паўстання, распачатага польскімі дэмакратамі шляхецкага паходжання. Аўстрыйскія ўлады падбухторвалі Шэлю, шырачы чутку, што польскія паны бунтуюць, каб аднавіць прыгон.*

**МАРАЛЬ**

## Імша замест «Голасу душы»

*З 27 студзеня па Беларускім радыё будзе рэгулярна трансляваціца ранішняя нядзельная імша з Мінскага кафедральнага касцёлу Найсвяцейшае панны Марыі.*

Як паведаміў святар кафедральнага касцёлу, ксёндз Аляксандр, першая трансляцыя ранішняй імшы на беларускай мове пачнецца ў 8 гадзін 30 хвілін. «Я думаю, што і надалей Беларускае радыё будзе пачынаць трансляцыю імшы ў гэты час. Бо для каталікоў вельмі важна браць удзел у нядзельным святым набажэнстве», — сказаў ксёндз. Разам з тым, адзначыў ён, гэта будзе «толькі паўгадзінная трансляцыя нядзельнага набажэнства», а не перадача на рэлігійныя тэмы, якой была праграма «Голас душы», закрытая ў канцы мінулага году.

Варта нагадаць, што першая духоўная праграма Беларускага радыё «Голас душы» была арганізавана ў пачатку 1993 году пробашчам мінскага Чырвонага касцёлу, ксяндзом Уладзіславам Завальнюком. З таго часу Завальнюк правёў каля 700 перадач, яны гучалі па нядзелях і ў дні вялікіх каталіцкіх святаў. Праграма ўздымала рэлігійныя і асветныя, гістарычныя, нацыянальныя і педагагічныя праблемы, паведамляла навіны з Ватыкану і Беларусі, перадавала звароты іерархаў рымска-каталіцкай царквы. «Голас душы» карыстаўся вялікай папулярнасцю не толькі сярод каталікоў, але і сярод прадстаўнікоў іншых канфесій. Закрыццё праграмы выклікала негатыўны грамадскі рэзананс. Асаблівае абурэнне гэта выклікала сярод людзей сталага веку, якім не падабаюцца папсовыя музычныя перадачы, якімі забаўляе слухачоў наша радыё. Для мноства вернікаў, якія жывуць далёка ад касцёлаў і цэркваў, нядзельны «Голас душы» азначаў духоўную асалоду, дазваляў суразмоўе, падштурхоўваў на добрыя асэнсаванні жыцця, на выхаванне ў дзяцей пачуцця маральнасці. Забарона перадачы і замена яе на трансляцыю набажэнства паказваюць, што напраўдзе гэта было зроблена хутчэй з-за нейкай асабістай непрыязні да таленту ксяндза-магістра Уладзіслава Завальнюка.

**Аддзел інфармацыі**

## Паўтара стагоддзя «Ідыліі»

6 і 7 лютага ў Купалаўскім тэатры які ўжо раз пакажуць «Ідылію», адзін з самых легендарных спектакляў на беларускіх тэатральных сцэнах. Хрэстаматыйны сюжэт многія помняць са школьных урокаў беларускай літаратуры. Малады пан Кароль Лятальскі, што любіць гойсаць па свеце і забаўляцца, прыязджае ў свой маёнтак, дзе сустракае «сялянку» Юлію і ўлюбляецца ў яе. Каханне, а дакладней намаганні пераапранутай у прыгонную паненкі Юліі, мяняюць пана: праз пэўны час Лятальскі, які раней цураўся сялян, ужо кажа, што хоча іх любіць, і каб яны яго любілі. У ім абуджаецца патрыятызм, і ён ужо не рвецца ў Францыю.

Праўда, гэтыя лютаўскія паказы незвычайныя. Яны юбілейныя і прымеркаваныя да 150-годдзя з часу прэм'еры гэтага спектакля. Адбылася першая пастаноўка п'есы, напісанай вядомым нашым пісьменнікам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, у лютым 1952 году на сцэне Мінскага гарадскога тэатру. Музыку да спектаклю напісаў яшчэ адзін славуты беларус Станіслаў Манюшка. Дунін-Марцінкевіч быў не толькі аўтарам п'есы, а кіраўніком тэатральнай групы, што паставіла яе. Апрача таго, тады, у прэм'ерным паказе «Ідыліі» (ці інакш «Сялянкі») ён быў яшчэ і актoрам: выконваў ролю селяніна Навума Прыгаворкі, які сыпе і сыпе народнымі прымаўкамі.

У 1887 годзе ў будынку Мінскага гарадскога тэатру здарыўся пажар, пасля якога давялося ўзводзіць новы будынак. Але грошай на яго не хапала, і тады тагачасны мэр Мінску граф Карл Чапскі, вядомы яшчэ як заснавальнік сталічнага бровару «Аліварыя», прыняў рашэнне прадаць прыналежны гораду лес ва ўрочышчы Міхалянка на высечку ў Расію. Першы спектакль у новым тэатры прайшоў у 1890 годзе. Цяпер гэта Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Дзяжурная п'еса Булгакава

*На смяротнай ложы хворы, амаль сляпы Міхаіл Булгакаў быў ахоплены адной думкай: «Я не магу, у мяне не атрымоўваецца паразмаўляць са Сталіным». Але дыялогу паміж пісьменнікам і тыранам, які цягнуўся дзесяць гадоў, наканавана было застацца без той канчатковай станоўчай рэплікі, якую чакаў Булгакаў.*

Пра гэтую агонію душы ўпершыню распавядае выдадзены пры канцы мінулага году «Дзённік Майстра і Маргарыты». У ім сабраныя разам лісты і дзённікі Булгакава і ягонай жонкі Алены Сяргееўны. На сёння гэта самая поўная публікацыя булгакаўскага архіву. Але найбольш узрушае «спецыяльны дзённік», які вяла жонка Булгакава па ягонай просьбе, калі пісьменнік адчуў, што набліжаецца яго смяротная гадзіна.

Апошні ўдар у працяглай размове з уладаром краіны быў фатальны. З усіх ягоных п'ес толькі адна не была забароненая, ніводзін раман не прайшоў праз «чырвоную» цэнзуру. І Булгакаў паставіў на карту ўсё – гонар, душэўны спакой, стасункі з сябрамі: ён напісаў «Батум» — п'есу, якая ўслаўляе маладога Сталіна. Гэта быў падарунак ад Булгакава на 60-гадовы юбілей бальшавіцкага дыктатара. Трэба, аднак, адзначыць — падарунак вымушаны. Булгакаў, па сутнасці, сам загнаў сябе ў пастку. Яшчэ ў 1936 годзе, блефуючы перад кіраўніцтвам Мастацкага тэатру, ён з тактычных меркаванняў паведаміў, што піша п'есу пра Сталіна. Гэта не прайшло незаўважаным, і ў тэатры пастаянна нагадвалі драматургу пра сваё жаданне хутчэй прыступіць да пастаноўкі. Безумоўна, што публічна абвешчанага твору чакаў і Сталін, і чакаў тры гады. Прыйшлося сесці і пісаць. Галоўным інфарматарам пра маладое жыццё Сталіна аказаўся Берыя, які падаў нейкія факты з батумскага рэвалюцыйнага эпізоду. Тэатр прыняў п'есу да пастаноўкі, бо яна была крыштальна ясная і простая па канцэпцыі, абяцала шмат рознахарактарных роляў і сталінскую падзяку. Але 15 жніўня 1939 году прыйшла горкая вестка: галоўны герой «Батума» забараніў ставіць п'есу. Магчыма, таму, што яна была не надта лісьлівай, а, можа, таму, што Сталін адчуў неадпаведнасць зместу п'есы свайму становішчу «бацькі народаў», правадыру краіны перамогшага сацыялізму. Апроч Сталіна ў п'есе не было ніводнай гістарычнай асобы: у 1939 годзе амаль усе сябры Сасо пачатку стагоддзя былі рэпрэсаваныя. Да таго ж у п'есе было шмат безгустоўнага, танных каламбураў і рызыкоўных эпізодаў: прыкладам, збіццё Сталіна жандармамі, Сталін за кратамі, Сталін галодны і г. д. Пафасу, дастойнага генеральнага сакратара партыі, у п'есе не было. Сёння б яе смела назвалі «халтурай».

Сталінская забарона на пастаноўку была пачаткам канца. Булгакаў па дарозе з тэатру дамоў спытаў жонку: «Куды мы рушым, да смерці?». Ён адчуваў сябе мёртвым і стаў паміраць на самой справе: страціў зрок, пакутаваў на цяжкія мігрэні, хутка прыйшоў невыносны боль у паясніцы. Яго ахапілі жах і дэпрэсія.

Тры ягоныя сябры, акцёры Мастацкага тэатру, у лісце сакратару Сталіна, прасілі ўмяшальніцтва правадыра: «Адзіная надзея на выратаванне — гэта вельмі моцны пазітыўны пераварот, які вярнуў бы Булгакаву жаданне жыць».

Надзея была на тое, што паўторыцца цуд 1930 году, калі на ліст Булгакава Сталін адказаў тэлефонным званком, следам за якім драматурга прынялі ў Мастацкі тэатр і вярнулі на сцэну некаторыя яго драмы. Але гэтым разам Сталін абмежаваўся тым, што публічна назваў «Батум» «добрай п'есай», аднак паказальна забараніў яе пастаноўку.

Такога «станоўчага» водгуку аказалася недастаткова, каб выцягнуць пісьменніка з той прорвы, у якую ён ляцеў. Булгакаў ліхаманкава спрабаваў закончыць апошнюю рэдакцыю «Майстра і Маргарыты», але хвароба перамагла: «Я б адмовіўся ад усяго: ад рамана, ад зроку, толькі б не гэты страшны галаўны боль!». Іншым разам, пасля ўколу морфію, яго ахоплівала шаленства, у якім да яго вярталіся пакуты рэальнасці: тэатр, грамадзянская вайна, раман. І Сталін. За два дні да смерці ён расказаў Алене Сяргееўне свой сон: «Камяні, прыгожыя шэрыя камяні, і ён сярод гэтых камянёў. Я хацеў бы, каб ты сказала яму, я хацеў бы, каб ён сказаў пра ...У мяне не атрымоўваецца паразмаўляць са Сталіным». Сон, які варты інтэрпрэтацыі паводле Юнга і які нагадвае сцэну даравання Понція Пілата ў фінале «Майстра і Маргарыты».

У рамане, які становіцца рэальнасцю, і ў жыцці, якое ператвараецца ў раман, Булгакаў неадступна працягвае дыялог ужо на парозе смерці: Сталін павінен быў стаць яго Воландам, містычным звышвыдаўцом, які ацэньвае яго твор.

Сустрэчы твар у твар, пра якую ён марыў, так і не адбылося, і пісьменнік перажывае яе ў мроях: «Я б адказаў, я б несумненна адказаў... каб усе ведалі». Жаданне апраўдаць і апраўдацца ў апошнія гадзіны было невыносным: «Хто мяне возьме? Хто нас прыме? Я нікому не хацеў зрабіць зла». Потым словы сталі неразборлівыя. І потым апошні крык: «Святло!» — такі самы, як і ў ягонага Мальера перад смерцю. У 16.39 10 сакавіка 1940 году Алена Сяргееўна вымавіла два словы: «Міша памёр». Наступным днём у Мастацкі тэатр патэлефанавалі. «Гаворыць сакратарыят таварыша Сталіна, — пачуўся мужчынскі голас, — гэта праўда, што таварыш Булгакаў памёр?» — «Так, праўда», — быў адказ, і на крамлёўскім канцы проваду на хвіліну ўсё сціхла, а потым пачуліся кароткія гудкі.

**La Stampa**



Міхаіл Булгакаў з жонкай Аленай

У вялізнай спадчыне Міхаіла Булгакава ёсць незапатрабаваная п'еса «Батум», якая не ставіцца на сцэне і не экранізуецца. Яна і не атрымае сцэнічнага ці кінематаграфічнага ўвасаблення. І зусім не таму, што прысвечана маладому Сталіну...

Але ж драматычныя падзеі апошняга году жыцця Міхаіла Булгакава былі больш звязаныя з «Батумам» і яго галоўным персанажам, чым з незавершаным раманам «Майстар і Маргарыта», аповесцю «Сабачае сэрца», якая была напісаная ў 1924 годзе, камедыяй «Іван Васільевіч», «Белай гвардыяй», «Фатальнымі яйкамі» ці «Бегам». Любы другі творца з такім літаратурным плёнам у сталінскія часы апынуўся б у канцлагеры. Булгакаву пашанцавала займець сімпатыі правадыра пасля свайго адчайнага пісьма на імя Сталіна, Калініна і Горкага з просьбай хадатайнічаць перад урадам аб выгнанні яго з тэрыторыі СССР. Пасля гэтага Сталін асабіста прысутнічаў на спектаклі «Дні Турбіных» 15 разоў. Булгакаў аказаўся залежны ад сталінскага апякунства (забароны на фізічную расправу) ужо таму, што бясконца гутарыў з ім у думках. Надзея растлумачыць уладарнаму дэспату сваю праўду і пераканаць яго сталася непапраўнай памылкай. Дорага заплаціў за яе аўтар «Майстра і Маргарыты». Менавіта аспект віны і апраўдання даследуе аўтар публікацыі ў італьянскай газеце, якая, на нашу думку, вартая чытацкай увагі.

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 25 студзеня

**1762**. Упершыню жанчына – Ганна Марыя Смарт – стала галоўным рэдактарам і выдаўцом часопіса (тыднёвіка *Reading Mercury*). Непажаданым наступствам гэтай перамогі эмансіпацыі было тое, што муж рэдактаркі трапіў у псіхіятрычную лякарню, і ёй самой давялося выхоўваць дачок (адна з іх узначаліла часопіс пасля смерці маці ў 1809 г.). Варта адзначыць, што Смарт была адзінаю ў свеце жанчынай-рэдактарам толькі некалькі месяцаў: у жніўні нявестка знакамітага навукоўца і палітыка Бенджамена Франкліна Энн Франклін пачала выдаваць часопіс *Newport Mercury*.

**1872**. Нарадзіўся адзін з заснавальнікаў УССР, ідэолаг украінізацыі Мікалай Скрыпнік. У 1933 г. напярэдадні арышту скончыў жыццё самагубствам.

**1882**. Нарадзілася англійская пісьменніца-мадэрністка Вірджынія Вульф.

### 26 студзеня

**1802**. Напалеон быў абвешчаны прэзідэнтам Італьянскай рэспублікі.



**1905**. Каля Прэторыі ў Паўднёвай Афрыцы быў знойдзены буйнейшы дыямент у свеце. Паўкілаграмовы алмаз атрымаў асабістае імя Кулінан.

**1972**. У югаслаўскім лайнеры *DC-9*, што пралятаў над Чэхаславакіяй са Стакгольма ў Бялград, выбухнула бомба. Загінулі 27 пасажыраў і членаў экіпажа. Тэракт быў скіраваны супраць прэм'ер-міністра Югаславіі Джэмала Біедыча, але той паляцеў іншым рэйсам. Не меншай сенсацыяй было тое, што ўратавалася сцюардэса Весна Вулавіч: у момант выбуху яна рабіла канапкі ў хвасце самалёта і разам з ім упала з вышыні 10 км у возера.

### 27 студзеня

Дзень беларускай навукі

**1627**. Беларускі гуманіст і царкоўны дзеяч Лаўрэнці Зізаній выдаў у Маскве «Катэхізіс Вялікі», дзе разам з догматамі праваслаўя выкладаліся веды па гісторыі, астралогіі, прыродазнаўстве ды іншых навуках. Выдаць кнігу ў Вялікім Княстве перашкодзілі езуіты, таму Зізаній звярнуўся па дапамогу да цара Міхаіла і маскоўскага патрыярха Філарэта. Кнігу надрукавалі, але на загад патрыярха амаль увесь наклад спалілі: з гледзішча расійскага праваслаўя змест яе быў надта ерэтычны. Ратуючыся ад магчымай расправы, Зізаній ужо праз два тыдні вярнуўся ў ВКЛ.

**1667**. Памёр пісьменнік-мемуарыст Адам Каменскі, аўтар унікальнага «Дыярыуша» — першага з усіх вядомых пісьмовых помнікаў пра Сібір. У часе вайны 1654 — 67 гг. Каменскі, аршанскі шляхціц, трапіў у расійскі палон і быў сасланы да якутаў, адтуль у Запаляр'е і Прымор'е, дзе мусіў збіраць падатак у тубыльцаў. Паводле разнабаковасці адлюстравання Сібіры XVII ст. «Дыярыуш» параўноўваюць з энцыклапедыяй.

**1797**. Удзельнікі падпольнага таварыства Віленская Асацыяцыя падпісалі «Акт Віленскага паўстання» — план барацьбы за адраджэнне Рэчы Паспалітай. Асацыяцыя мела свае адгалінаванні ў Мінску, Брэсце, Кобрыне, Гродне ды іншых месцах. У кастрычніку бальшыня ўдзельнікаў былі арыштаваныя, асуджаныя за змову на паўстанне і сасланыя на катаргу ў Сібір.

**1832**. Нарадзіўся англійскі матэматык і пісьменнік Льюіс Кэрал, аўтар віртуозных казак «Аліса ў Краіне Цудаў» і «Скрозь вочы шкла» («Аліса ў Залюстроўі»).

**1967**. На мысе Кенедзі ў штаце Флорыда падчас наземных выпрабаванняў карабля *Apollo 1*, які рыхтаваўся стартаваць на Месяц, згарэлі астранаўты Вірджыл Грысам, Эд Уайт і Роджэр Чафі: у выніку памылкі з электраабсталяваннем загарэўся кісларод у іх капсуле. Уратаваць астранаўтаў, якія сядзелі на вышыні больш за 70 м, было немагчыма.

### 28 студзеня

**1712**. Нарадзіўся пісьменнік, мінскі староста Удальрык Радзівіл, аўтар пяцітамовай «Агульнай гісторыі» ды інш. Лічыўся дзіваком і фантазёрам, горача бараніў *liberum veto* і спрабаваў увесці ў спектаклі магнацкіх тэатраў беларускую мову.

**1807**. Лонданская *Pall Mall* стала першаю вуліцай у свеце, уздоўж якой увечары засвяціліся ліхтары.

**1887**. У Польшчы нарадзіўся амерыканскі піяніст-віртуоз Артур Рубінштэйн. Першы канцэрт даў у пяцігадовым узросце. Ведаў восем моваў і ў часе Другой сусветнай вайны сам пайшоў служыць перакладчыкам у войска. У 1977 г. англійская каралева ўзвяла Рубінштэйна ў рыцары.

**1932**. Японскае войска пачало акупацыю Кітая і захапіла Шанхай.

### 29 студзеня

**1737**. Нарадзіўся англійскі філосаф, удзельнік вайны за незалежнасць Паўночнай Амерыкі і Вялікай Французскай рэвалюцыі Томас Пейн. У кнізе «Правы чалавека» (1791) абгрунтаваў права народа на суверэнітэт і на рэвалюцыйнае паўстанне.

**1916**. Германскія дырыжаблі ўпершыню бамбавалі Парыж.

**1946**. На прысуд трыбуналу над ваеннымі злачынцамі ў Мінску былі расстраляныя 14 нямецкіх генералаў і афіцэраў.

### 30 студзеня

**1667**. Рэч Паспалітая падпісала з Расіяй Андрусаўскае замірэнне па выніках вайны 1654 — 67 гг. Расія атрымала Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы, Левабярэжную Украіну і Кіеў.

**1882**. Нарадзіўся 32-гі прэзідэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвельт, сацыяльныя рэформы якога («Новы курс») дапамаглі Амерыцы адужаць эканамічную і псіхалагічную дэпрэсію. Удзячныя грамадзяне абралі Рузвельта на рэкордны чацвёрты тэрмін.

**1922**. У Мінску быў заснаваны Інстытут беларускай культуры (у 1928 г. пераўтвораны ў Беларускую Акадэмію навук).

**1927**. Нарадзіўся шведскі прэм'ер-міністр Улаф Пальме. У 1986 г. невядомы тэрарыст застрэліў Пальме і параніў яго жонку Лізбет, калі тыя ўвечары шпацыравалі па горадзе. Падчас пахавання Улафа ўдава паклала яму на труну адзіную кветку — чырвоную ружу — сімвал сацыял-дэмакратыі, адным з сусветных лідэраў якой быў яе муж.

**1972**. «Крывавая нядзеля» ў Паўночнай Ірландыі. Падчас забароненага маршу каталікоў у Лондандэры брытанскія дэсантнікі адкрылі агонь па натоўпе і забілі 13 чалавек.

### 31 студзеня

**1747**. У Лондане адкрылася першая ў свеце венерычная лякарня.

**1797**. Нарадзіўся аўстрыйскі кампазітар-рамантык Франц Шуберт. Напісаў 8 сімфоній, а таксама каля 600 песень (8 з іх — у адзін дзень).

**Падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1113 Нумар падпісаны ў друк 24/01/2002 (15:00) Наклад – 8.700